## Ад Рэдакцыі

Як у кажнай грамадзе ёсьць людзі, што праз увесь свой век зьяўляюцца прадметам жартаў і насьмешак, так ёсьць і народы або пляменьні, якія славяцца тым, што аб іхнай наіўнасьці і неасаблівай кемкасьці паўстаюць тысячы жартаў, анэкдотаў і гумарыстычных расказаў. Такую незайздросную славу народаў-скамарохаў маюць прыкладам шкоты у Ангельшчыне, пашахонцы у Расеі, або каўкаскія армяне сярод народаў усходняй Эўропы. Да падобных народаў належаць і нашыя суседзі з захаду — мазуры.

Па усёй сумежнай з мазурамі паласе заходнябеларускіх земляў, — усюды там, дзе беларусы так ці накш сутыкаюцца з прадстаўнікамі гэтага польскага плямя, — ходзяць па народзе тысячы насьмешлівых жартаў, анэкдотаў, казак і сатырычных апавяданьняў аб гэтым пакрыўджаным прыродаю і гісторыяй народзе. З гэтага гледзішча у нас з мазурамі могуць яшчэ хіба канкураваць толькі жыды, якіх беларус таксама не пашкадаваў у сваёй багатай народнай творчасьці.

Трэба аднак тут адзначыць, што такую незавідную ацэну мазура знайходзім ня толькі у нашай, але і у творчасьці іншых, што жывуць з мазурамі у суседзтве, народаў, насамперш у творчасьці украінцаў і немазурскіх пляменьняў польскіх. Праз усю гісторыю Польшчы мазуры былі прадметам едкіх жартаў. насьмешак і пагарды для іншых палякоў. Аб гэтым піша і выдатны польскі вучоны А. Брюкнэр у сваёй вялікай чатырытомнай, выданай перад гэтай вайной, працы: «Dzieje kultury polskiej».

З гэтага бачым, што насьмешліва-пагардлівыя дачыненьні да мазурў беларускага народу паўсталі ня дзелянайкай нацыянальнай варожасьці ці ненавісьці, — прычына гэтага ляжыць у народным характары самых мазуроў.

Мазуры пераважна невялікага росту, неасаблівага выгляду і будовы, бедныя культурна і духова, так, як бедная і малаўраджайная пяшчаная мазурская зямля. Галіта і нястача — вечныя спадарожнікі мазурскага «хлопа» як і шляхціча. Таму і мазурскія вёскі, раўнуючы да суседніх беларускіх выглядаюць няпрыветліва, апушчана і няхайна. Як кажа адзін польскі аўтар — на «Мазовшы» навет і сабака заўсёды змарнелы і так слабы, што калі брэша, дык задам апіраецца аб «халупу» свайго гаспадара, каб не паваліцца.

Як выяў духовай беднасьці, бедная, вельмі бедная і уся народная творчасьць мазуроў. Калі пачынаючы ад раньняй вясны, аж да позьняй восені, беларускія вёскі і палі зьвіняць сваёй багатай адвечнай народнай песьняй — мазурскія вёскі пераважна нема маўчаць.

Некаторыя польскія вучоныя стараліся тлумачыць гэтую беднасьць на выявы духовай культуры вякамі перажытага цяжкога панскага прыгону. Але той-жа А. Брюкнэр кажа, што ня тут прычына, бо ня менш цяжкі прыгон перажыла і нашая вёска. Вякі сацыяльнай паняверкі і цяжкога прыгону наадварот надалі нашай песьні асаблівую псыхолёгічную глыбіню і павагу, так адменную ад павярхоўнай, тандэтнай мазурскай «Гоп, дзісь, дзісь, — тра-ля-ля-ля!».

Дык ня у прыгоне ляжыць існасьць справы, а у спрадвечным пляменным духовым комплексе. Небагатая і неўраджайная, як зямля Мазоўшчыны, мазурская душа ня можа тварыць такіх культурных вартасьцяў, як глыбокая багатая душа беларуса, што выявілася у дзесятках тысяч народных песьняў і нязвычайна мастацкіх казак.

Ужо самая шапялявая мова мазуроў з невымаўленьнем шыпячых зычных ш, ч, ж (мазуры кажаць: «цапка, спотка, псепрасам», заміж «чапка, шчотка, пшэпрашам» і г. д.)

выклікае у беларуса прыраўнаньне да мовы недаразьвітага дзіцяці. Таксама і увесь мазурскі бедны і няхайны склад і лад жыцьця зьяўляюцца прычынаю вечных насьмешак і жартаў.

Беларускіх народных жартаў, анэкдотаў, сатырычных апавяданьняў і казак аб мазурах ёсьць тысячы. Калі сабраць толькі запісаныя ужо вучонымі-этнаграфамі, дык з іх можна было-б укласьці вялікую кнігу. Асабліва шмат такога матар'ялу знаходзім у чатырох ужо друкаваных тамох збораў беларускай народнай творчасьці Фэдэроўскага, што выйшлі пад назовам «Люд Бялорускі».

Друкаваныя тутка «Прыгоды Панаса і Тараса» — гэта ня што іншае, як жменя такіх анэкдотаў, складзеная у вадно апавяданьне — у форму прыгодаў Панаса і Тараса у часе падарожжа па мазурскіх вёсках. Першы раз гэтыя «Прыгоды» былі друкаваныя асобнай кніжачкай у 1912 г. у Пінску. Пазьней, за польскай акупацыі кніжка гэтая была перасьледаваная і нішчаная польскай адміністрацыяй і таму сяньня яна — вялікая рэдкасьць. Тут друкуецца яна, — з ласкавага дазволу собсьніка, — з экзэмпляру, які захаваўся у прыватным архіве сп. інж. Васіля Русака.

У друкаваных тут, як і усіх падобных, сатырычных анэкдотах пуката выяўляецца тое, як беларус яскрава усьведамляе усю сваю нацыянальна-пляменную і культурную вышэйшасьць раўнуючы да суседняга мазура, якому прырода шмат чаго пашкадавала. У іх адчуваецца сьведамасьць сваей народнае духовае перавагі і гордасьць з гэтага.

Гэтая сьведамасьць мела заўсёды вялікае значаньне для нацыянальнай аховы нашай этнаграфічнай мяжы, а таксама для аховы чысьціні нашай пляменна-біялёгічнай субстанцыі. Беларусы ня лёгка уваходзілі у кроўныя сувязі з мазурамі. Польскія уплывы-ж з вялікай цяжкасьцяй маглі дзеіць тады, калі іхным носьбітам быў пагарджаны і высьмейваны агульна мазур. Таму, дзе вы-

явілася палёнізацыя на заходнябеларускіх землях, дык яна ішла толькі праз касьцёл, праз двор, праз спалячэлае места, а не праз мазурскую вёску.

З гэтага гледзішча гэтыя тысячы народных сатырычных апавяданьняў мелі для нас вялікае значаньне.

Іхная важная нацыянальная функцыя не закончылася яшчэ і сяньня.

**Сымон Бор.**

# Прыгоды Панаса і Тараса

## I. ПАНАС І ТАРАС ЕДУЦЬ ЛЮДЗЕЙ І СЬВЕТУ ПАБАЧЫЦЬ

Нядзелямі у ваднэй з вёсак Піншчыны Панас і Тарас, седзячы на прызьбе гутарылі аб тым, якія дзе жывуць людзі і аб іхных звычаях і парадках.

— А ведаеш што? — кажа Панас, — Гэта, што мы тут гаворыма і аб чым баюць старыя людзі, мо і няпраўда. А каб даведацца, як запраўды жывуць людзі на белым сьвеце, лепш вось што мы зрабем. Дзеці ў нас абодвых дарослыя, з гаспадаркай уходаюцца, могуць ужо абыцца і бяз нашай рады. Мы ужо адсеяліся, і цяпер якраз такая пара, што нам усёроўна няма чаго рабіць, а коні у нас таксама ёсьць гуляшчыя, — дык чым церціся па цяньках, паедзем лепш у белы сьвет паглядзець, як людзі жывуць.

— Праўду кажаш, кум, — згадзіўся Тарас, — едзьма! Толькі зараз-жа трэба і зьбірацца, каб да касьбы і жніва паспець зьвярнуцца да хаты.

- Сказана — зроблена.

Разыйшоўшыся па хатах, Панас і Тарас зараз-жа загадалі сваім бабам рашчыніць хлеб і падрыхтаваць на аўторак усё патрэбнае у дарогу.

На другі дзень, пакуль бабы пяклі хлеб і аладкі, білі масла, рабілі сыры і варылі кумпячыну на дарогу сваім дзядом, мужчыны прыбіралі воз, шмаравалі колы, гатавалі аброк, кавалі і кармілі коні, агледалі запражку.

Згодна з прыказкаю «едзеш на дзень, а хлеба бяры на тыдзень», добры гаспадар без адпаведнага запасу ежы у дарогу ніколі не выбіраецца. Дык вось, Панас і Тарас, улажыўшы у мяшок па тры боханы хлеба, па добраму апольцу сала, па кумпяку, па штук пяць сыраў, па добрым слоіку масла і, дадаўшы да усяго гэтага яшчэ стаўпец аладак, — знайшлі, што харчоў павінна стаць на добры шмат дарогі. Апрача гэтага, паставілі у воз поўную дзяжу талакна. На усялякі выпадак адлічылі яшчэ у падарожныя капшуке па дзесяць рублеў грошы, налажылі воз сенам і аброкам, а зьнізу за трайню прывязалі вядзерца з каланіцай. На усялякае здарэньне улажылі у воз сякеру. Панасавага каня, як старэйшага запрэглі у наглоблі, а Тарасавага, маладога, прыпрэглі збоку.

У ваўторак рана, ледзь золак, яшчэ да усходу сонца, Панас і Тарас падмацаваўшыся добра аладкамі з салам і, падапрануўшы пад новыя сьвіткі яшчэ кажушке, крануліся у дарогу.

Едуць, гутараць, піпачкі пакурваюць... Іхныя конікі патрухваюць.

Да Пінску дарога і людзі усе знаёмыя: сюды што кожнага аўторку яны на кірмаш езьдзяць. Гэтым разам кірмашнікаў таксама ехала шмат і Панас з Тарасам у грамадзе не заўважылі, як апынуліся у Пінску.

Тут сустрэліся яны са знаёмымі ды з роднымі, распыталіся у іх дарогу на Берасьце.

Урэшце, дзеля адвагі і цяпла у ногі, «зрабілі па паўкварты» і паехалі далей.

Едуць сабе, едуць між собку гутараць, піпачкі пакурваюць. Каго ні сустрэнуць «дабрыдзень» скажуць, дарогу распытаюць. Да людзей, да іхнае работы прызіраюцца, але пакуль што, нічога новага пя бачаць: людзі, як людзі, усе такія, як Панас із Тарасам. Ведама, — свая старонка!

Удзень едуць, уначы папасуюцца. Прылучацца дзе да вясковых пачлежнікаў, распрагуць сваіх конікаў, пусь-

цяць іх на выган, а самі пагаманяць з людзьмі каля вогнішча, крыху пасьпяць ды адпачынуць і са усходам сонейка ізноў у дарогу.

## II. МАЗУРЭ

Да Берасьця нічога новага ня бачылі Панас з Тарасам: усе людзі, як людзі, — і гавораць аднолькава.

— А ведаеш, Тарас, пэўна махлююць старыя людзі, што ёсьць на сьвеце народ мазурэ? — кажа Панас.

— Чаму? — пытаецца Тарас.

— А таму, што вось мы гэтулькі ужо праехалі, а нікога і нічога новага яшчэ ня бачылі: усё наш брат і нашая гаворка. Ці не вярнуцца нам ужо да хаты? Бо гэтак і увесь сьвет аб'езьдзіш, а навіны дамоў ня прывязеш і сам розуму не набярэшся.

— Пачакай. Панас, я чуў, што гэтыя самыя мазурэ, што родзяцца сьляпымі, жывуць за Берасьцем, а тут ужо, кажуць, ня шмат засталося. Яны — тыя-ж самыя паляке, бо жывуць у Польшчы. Гаворка іхная таксама польская, толькі надта усе яны шапечуць, і калі хутка залапоча ды зашапеча мазур, а асабліва мазурыха, дык пакуль не абслухаешся, дык цяжка і зразумець, што яны гавораць. Вечная памяць, мой бацька нябожчык казаў, што мазур неадважыцца назваць сябе палякам датыхчас, пакуль не пачне адзяваць нагавіц. А хлапцэ ходзяць у іх без нагавіц аж да тэй пары, пакуль неспатрэбіцца ісьці у сватэ, або у войска, бо датыхчас дзяцюк усё яшчэ лічыцца блазнам. Не дармаж-ж у нас кажуць «мазур-беспарточнік». А як ужо мазур улезе у нагавіцы ды усадзіць у капялюш пяро з пятушынага хваста, дык тады ужо хоць і босы, але ходзіць, галаву задзёршы. А як яны дзіўна вучацца нагавіцы адзяваць! Але я табе аб гэтым цяпер не скажу, бо табе усё скажы, дык і ехаць далей не захочаш. Пэўна пабачым гэта на свае вочы.

Зацікавіўся Панас і дамоў зьвяртацца раздумаўся.

## III. МАЗУРЭ НА КІРМАШЫ

Едуць далей. Прыехалі у Берасьце. Прыгожы горад! Спадабаўся Панасу і Тарасу. Знайшлі, што нат лепшы за Пінск.

Быў якраз кірмашны дзень. Пайшлі яны на рынак. Ходзяць, да тавару, да людзей прыглядаюцца, да іхнае гутаркі прыслухаюцца.

— Тарасе, а Тарасе! Хадзі хутчэй сюды! Паслухай, як гаворыць вунь тая баба, што сыры на возе прадае: здаецца, — не па-нашаму. Падыйшлі, — слухаюць. Пытаюцца, па чым сыры.

— По цтэры злоты і цьверць з вагі ззуцам! — хуценька адрэзала баба.

— Ты зразумеў, Тарас?

— Не! А ты, Панас?

— І я нічога не зразумеў! Калі яна надта хутка заболбатала ды яшчэ нейкая шапятлівая.

— Ну, дык гэта — пэўна мазурыха. А што? Я казаў табе, што варта ехаць далей!

— Ну, дык ідзем яшчэ прыслухацца, — кажа Панас. Ідуць, прызіраюцца і да мовы прыслухаюцца.

— Панас! Хутчэй, хутчэй, глядзі, як вунь той чалавек на кані паехаў!

— Дзе, які?

— Вунь, недалёка ад студні.

Панас, як пабачыў, дык аж мала не пакаціўся са сьмеху! На кані сядзіць сярэдніх гадоў чалавек тварам да заду і, аберуч трымаючыся за хвост, каб не зваліцца, усё глядзіць у той бок, адкуль едзе, а другі чалавек вядзе каня за вобруць.

— Во, праўду-ткі кажуць: «Што край, то звычай». У нас гэтак конна ня езьдзяць. Хадзем, Панас, паўзіраемся, што далей будуць рабіць гэтыя людзі з канём!

Падвёў чалавек каня да студні, наліў у карыта вады, — поіць, а той, што на кані, вокам не міргне, ні на кога

ня гляне і сядзіць, як слуп, утаропіўшыся наваз, ад якіх ехаў.

Хочацца Тарасу з Панасам распытацца, што значыць гэтая праява, але разам і брыдка ім паказацца сярод чужых людзей нічога ня ведаючы.

Аж, на шчасьце, пабачылі знаёмага жаўнера з іхнае вёскі, які служыў у Берасьцейскай крэпасьці. Вельмі узрадаваліся, што спаткалі сваяго чалавека і зараз-жа пытаюцца:

— Скажы Арцёмка, чаму гэты чалавек сядзіць на кані да хваста тварам і усё нейдзе углядаецца, нат вокам ня міргне?

— А гэта, бачыце, мазурэ, як прыедуць у Берасьце на кірмаш, дык, каб неадлучыцца ад сваіх і ня згубіць воза на рынку, вядуць у двох паіць каня. Пакуль адзін вядзе каня і поіць яго, другі вось сядзіць на ім і увесь час сочыць свой воз, каб ня спусьціць яго з вока і каб потым ня шукаць. Але гэта што? Вось вы пабачыце яшчэ цікавейшыя рэчы...

— Тарас, Тарас! Глядзі, на што гэтыя людзі, вунь ідучы усё клубкі размотваюць?

— Дзе? Пакажы!

— Вунь, у ваднаго чалавека клубок ніцей у руках, там вось другі размотвае, ідучы у краму, а вось баба распускае за сабою ніці... Арцёмка, што гэта яны робяць?

— А гэта — таксама мазурэ. Яны у Берасьце бяз клубка ніцей ніколі ня едуць. Бо, калі трэба ім адыйсьціся каму-небудзь ад свайго воза, дык, каб трапіць ізноў на тое месца, — распускаюць за сабой ніці, а потым, ідучы назад, ізноў змотваюць іх у клубке.

— То хіба яны надта далёка жывуць ад Берасьця, калі гэты горад ім гэтакі не знаёмы?

— Не! Жывуць яны бліжэй, чым адгэтуль нашая вёска, але яны усе нейкія надта блуклівыя. Часта здараецца, што мазур на сваіх палетках заблукаецца.

— Брэшаш, Арпём! Як-жа можна ня ведаць сваіх палеткаў?

— Я сам быў сьветкам гэтага здарэньня!

— Ну, раскажы, як гэта было?

## IV. БЛУКЛІВАСЬЦЬ МАЗУРОЎ

— Былі мы вось у мазурскай старане на манеўрах і стаялі у ваднэй вёсцы. Дык адзін гаспадар, у якога я быў на кватэры, паехаў у поле гараць. Але ня трапіў на сваю ніву, ды загараў суседнюю. Назаўтрае лучыў якраз на сваё поле. Глядзіць і дзівіцца... што за ліха? Учора гараў, а сяньня ужо травою зарасло? Ну, але раз гараў, то трэба і засеяць. Так і засеяў мазур нягоратую ніву! Або вось у нашай батарэі служаць два мазурэ, дык жыватэ мы з іх панадрывалі: што дзень, то усё сьвежую штуку яны выкінуць. Служаць яны тут ужо з паўгоду, а адзін з іх і дагэтуль ня можа ніяк знайсьці свайго ложка, як трэба спаць клясьціся: заўсёды на чужым умосьціцца, пакуль яго не завядуць і не пакажуць ягонага месца. А наранкі, як схопіцца, дык заўсёды то чужыя боты абуе, то нагавіцы або мундзер чужы адзене, або у чужую скрынку залезе, шукае у ёй сваіх рэчаў і лаецца, калі не знаходзіць. І сьмех, і бяда з ім! А другі, — дык праз даўгі час ніяк ня мог запамятаць, дзе у яго правая і дзе левая нага. Калі яму кажуць пачынаць ісьці з левай нагі, — ён ступае праваю і наадварот, — дзе трэба ступіць праваю, — ён суне левую. Нарэшце, каб ён мог адрозьніці узялі ды прывязалі да левае нагі сена, а да правае — салому, і у часе маршыроўкі, заміж каманды «левай! правай!» крычэлі яму «сена! — салома! сена! — салома!» І сьмех, і бяда! Але за месяц усё-ж ужо добра ведаў ён, дзе правая і дзе левая нага.

Зацікавіліся Панас і Тарас мазурамі.

— А што? Я казаў табе, што трэба ехаць далей! — упікнуў Тарас Панаса.

— Твая праўда, Тарасе! Ну, дык цяпер ужо едзьма далей, паглядзімо на гэтых мазуроў...

З радасьці, што сустрэліся са сваім чалавекам, Панас і Тарас, згодна з прыказкаю, што «добры гаспадар ня толькі у жываце, а нат у ботах вады ня любіць», пачаставаліся з Арцёмам квартаю гарэлкі, добра папалуднавалі, распыталіся дарогу і паехалі далей.

## V. ПАНАС І ТАРАС ВУЧАЦЬ МАЗУРОЎ ГАРАЦЬ ВАЛАМІ

Едуць яны, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі пакурваюць. Конікі патрухваюць.

Праз лясэ, пале праяжджаюць, мясцовасьць агледаюць. Цікавяцца, як людзі поле абрабляюць, чым гаруць чым засяваюць.

Едуць дзень, едуць другі, — усё тыя-ж людзі, тыя-ж самыя звычаі.

— Што за ліха? Дзе-ж тыя мазурэ жывуць? — пачаў зноў непакоіцца Панас.

— Не пары гарачкі! — адказвае Тарас, — цяпер пэўна ужо недалёка...

— Глядзі, глядзі, Тарас! Што гэты чалавек вунь робіць?

— Ну, што-ж?.. Гарэ!

— Гарэ то ён гарэ, але здаецца — ні канём, ні валом.

— А кім-жа ён гарэ?

— Здалёк не разабраць, — едзьма хутчэй!

Падагналі конікаў, пад'яжджаюць бліжэй.

Праўда, — чалавек гарэ, але саху цягне баба.

— А што? Праўда-ткі, што мазурэ на бабах поле таруць!

— Ну, цяпер і я паверу, — кажа Панас.

— Чалавеча добры! Што робіш? — пытаюцца.

— Гару! — кажа той.

— А дзе-ж твае валэ?

— Нашто валэ? Пры чым яны тут? Яны вось на пашы!

— Дык на тое-ж яны і валэ, каб на іх гараць!

— Што вы, людцэ? Яны-ж ня будуць ведаць, у які бок цягнуць!

— Нічога! Мы табе вось пакажам, як гэта робіцца.

Панас і Тарас зараз-жа зьлезлі з воза, распрануліся, зрабілі на хуткую руку сякое-такое ярмо, злавілі пару добрых валоў, упрэглі. Адзін на першы пачатак правёў валэ, а другі саху кіруе. Пайшла работа як належыць! Вылупілі мазур з мазурыхаю бакулы і толькі дзівяцца! Што гэта за людзі такія, што і жывёле чалавечы розум могуць надаць?..

Якбач з паўганоў нагаралі, а потым кажуць мазуру:

— Ну, цяпер ты сам гары!

Узяўся мазур за саху, падагнаў валоў, — саха проста піша!

Не надзякуецца мазур, а яшчэ больш ягоная баба!

— Ну едзьма далей, Тарасе! І добрую справу зрабілі, і конікі нашы адпачылі.

Селі, паехалі.

## VI. МАЗУР ВУЧЫЦЦА НАДЗЯВАЦЬ НАГАВІЦЫ

Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конькі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Прыехалі да вёскі.

У канцы яе, каля збажжовага магазыну, бачаць, — стаіць грамада людзей, і два чалавекі трымаюцца абедзвюх рук як-бы за парэх мяшка, быццам рыхтуюцца насыпаць у яго збожжа.

— Людзі, пэўна, збожжа пазычаць прыйшлі, — кажа Тарас.

Пад'яжджаюць бліжэй, глядзяць, — аж гэта не мяшок, а нагавіцы.

— Глядзі, Тарас, дык тут пэўна у пагавіцы збожжа насыпаюць!

— Пачакай, што далей будзе? — кажа Тарас.

Прыстоялі, «дабрыдзень» сказалі і прыглядаюцца.

Бачаць, аж на страху магазыну палез маладый дзяцюк, ушчарэпіўся на самы хрыбет, прымітыкаваўся насупроць нагавіц і раптам калі пабяжыць са страхі ды — гоц! на зямлю аж вякнуў.

— Не патрапіў! — крычаць мазурэ, рагочучы.

Зноў палез дзяцюк на страху, прымітыкаваўся, — гоц! на зямлю.

— Ня туды! — крычаць зноў мазурэ.

Палез яшчэ дзяцюк на страху...

— Што гэта вы робіце тут, людцэ? — пытаецца Панас.

— А гэта вось мы вучым дзяцюка пагавіцы надзяваць, — кажуць мазурэ, — бо увечары, бачыце, у сватэ пойдзе.

— Гэ, ды гэта можна хутчэй зрабіць! — кажа Панас, — дайце сюды нагавіцы! Я пакажу, як іх адзяюць.

Узяў нагавіцы — шмыг! шмыг! у адну калошыну, у другую, падперазаў паясом, — і гатова справа!

Дзіавяцца мазурэ і пытаюцца: «Адкуль вы, людзі?»

— А, — адгэтуль ня відаць. Ну, а цяпер няхай гэты дзяцюк сам спрабуе гэтак зрабіць!

Дзяцюк зьлез са страхі, надзеў звычайным спосабам нагавіцы, углядаецца на іх, сьмяецца з радасьці, рукавом пот з лоба выцірае, цешыцца і зухуе, што улезшы у нагавіцы, сталым палякам зрабіўся.

Не надзякуюцца мазурэ, што даведаліся способу нагавіцы адзяваць!

— Ну, вось ізноў добрую справу зрабілі, а тым часам і нашыя конікі адпачылі, едзьма далей, — кажа здаволены Панас.

Селі, пасхалі.

## VII. ЯК МАЗУРЭ КАРОВУ НА СТРАХУ ЦЯГНУЛІ

Едуць, усё едуць, міжсобку гутараць. Свае люлечкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць, а іхныя конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць...

Прыяжджаюць у вёску.

Бачаць, аж мужыке цягнуць карову на страху за рогі, а бабы ззаду падпіхаюць.

Зацікавіліся Панас з Тарасам! Прыстоялі, «дабрыдзень» сказалі, узіраюцца.

А карова, аж раве, упіраецца: ня хоча на страху лезьці!

— Што робіце, людцэ? — пытаецца Панас.

— А ці-ж ня бачыш? Карову на пашу жанямо! — адказваюць мазурэ.

На страсе, праўда, была добрая трава.

— Пачакайце, людцэ, гэта інакш робіцца! — кажа Тарас, — дайце адно сюды касу!

Прынесьлі мазурэ касу.

Тарас зараз намянціў яе, узьлез на страху, — шас!-шас!-шась! — скасіў усю траву, скінуў на зямлю і даў карове.

Дзівяцца мазурэ, не надзякуюцца! Пытаюцца скуль гэткія разумныя людзі?

— А стуль, дзе нас цяпер ужо няма! — адказаў Панас.

— А ці далёка гэта будзе ад нас?

— А мы якраз із таго месца, дзе сонейка усходзіць!

— А-а-а!.. калі так, дык вы — нашыя блізкія суседзі, бо у нас сонца вось за лесам усходзіць!

Узрадаваліся мазурэ «блізкім суседзям», паклікалі іх у хату, напаілі, накармілі, аб сабе расказалі.

Рады Панас з Тарасам! І дабро робяць, і ад людзей павагу і падзяку маюць!

— Едзьма далей, Тарас!

Селі, паехалі.

## VIII. ПАНАС І ТАРАС ЛОВЯЦЬ МАЗУРОМ СОНЦА

Едуць усё, едуць, міжсобку гутарацць. Свае піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Уехалі у вёску.

Бачаць, усе хаты без вакон. А з аднэй хаты і старыя і малыя з рознымі начыньнямі, — хто з рэшатом, хто з видром, хто з дайніцаю, хто з цабэркам, хто з дзяжкой, або проста з векам ад яе, — выбягуць на вуліцу, зачэрпаюць паветра, бы ваду, прыкрыюць радном і зноў бягуць у хату, і гэтак усё бегаюць і бегаюць, быццам на пажары.

Зацікавіліся Панас із Тарасам!

Прыстоялі, «дабрыдзень» сказалі і пытаюцца:

— Што гэта вы, людцэ добрыя, робіце?

— А хіба-ж ня бачыце? Сонца у хату носім!

— Слухай, Панас! Гэта-ж надта добрая рэч мець сонца у хаце! Пойдзем паглядзімо, ці шмат ужо нанасілі гэтыя людзі сонца і у якім месцы яны прычапілі яго, каб сьвяціла.

Увайшлі у хату, «дабрыдзень» сказалі. Ім хтосьці адказаў, а хто — і ня бачаць: так цёмна у хаце.

— Дзе-ж вашае сонца, — пытаюцца.

— А яшчэ не нанасілі, — кажа мазурыха.

— А ці доўга-ж давядзецца насіць?

— А цэлы дзень, пакуль аж сьцямнее.

— Ну, а потым, што вы робіце?

— А потым спаць лажымося.

— Э-э-э!... Дык гэта накш робяць: у нас ня носяць, а ловяць сонца. І адзін раз як зловяць, дык тады ужо ніколі яно з хаты ня уцякае!

— Ну, пакажэце-ж, людцэ добрыя, як гэта зрабіць? — просяць мазурэ.

— Ну, дык дайце сюды пілу і дзьве сякеры!

Прынесьлі мазурэ пілу і дзьве сякеры.

Панас із Тарасам зараз распрануліся, — гак!-гак!-гак! — прасеклі дзіру у сьцяне, усадзілі у гэтую дзіру пілу, — шагэр!-шагэр!-шагэр! — праразалі вакно і упусьцілі у хату сонца. Потым якбач выразалі другое, трэйцяе вакно, — і у хаце стала відно, як на дварэ.

Дзівяцца мазурэ, не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

— А якраз з таго месца, дзе неба з зямлёю сходзяцца!

— Э!... Ды гэта-ж зусім блізкія суседзі, бо неба сходзіцца з зямлёю вось за гэтай гарою.

Зараз хамянуліся частаваць добрых людзей, «блізкіх суседзяў». Прынесьлі гарэлкі, масла, сыру. Панас і Тарас п'юць, ядуць, пра іхнае жыцьцё распытваюць, аб сваім расказваюць. Коні іхныя таксама адпачываюць, мазуровым аўсом частуюцца.

За чаркай ды за гутаркай не заўважылі, як і вечар надыйшоў.

Просяць мазурэ Панаса з Тарасам начаваць у іх.

Упадабаліся ім «суседзі блізкія», людзі добрыя, што сонца назаўсёды у хату залучылі!

А Панас із Тарасам толькі і чакалі гэтага: цікавіла іх, як у сям'і у мазуроў.

## IX. ЯК МАЗУРЭ ПАРАЦЦА

Палеглі яны на лавах, — быццам сьпяць, а самі адным вокам сочаць, што робіцца у мазуровай хаце.

Бачаць, — напаліла мазурыха печ, нагрэла сагано́ў з пяць вады, выліла яе у цэбар. Потым выграбла з печы жар і кажа свайму гаспадару:

— Ну, лезь парыцца!

Скінуў гаспадар з сябе сарочку і палез у печ.

Па нейкім часе вылез мазур з печы, апаляскаўся у цэбры, адзеўся і палез на печ.

А мазурыха палезла у печ.

Старэйшы сын прычыніў яе заслонкаю і сам пачаў раздзявацца.

Падыйшоў да печы, кліча матку, а яна не адзываецца. Адчыніў засланку ды як закрычыць: «Ратуйце, людзі! матка скапэрсьцілася!»

Панас з Тарасам скочылі з лаваў, выцяглі за валасэ бабу з печы, адлілі яе вадою ды і кажуць: «Ну, гэтак людзі ня парацца.»

— А як-жа? — пытаюцца мазурэ.

— Вось заўтра мы пакажам, а сяньня сьпеце ужо.

Назаўтрае, ледзь золак, усталі Панас із Тарасам, збудзілі гаспадара, пайшлі у старую хату, злажылі там каменку, прыладзілі палок. Нацеплілі лазьню, панасілі бочку вады, нагрэлі яе камянямі, навязалі бярозавых венічкаў і давай самі парыцца.

Глядзяць мазурэ і дзівяцца. А потым самі давай гэтак рабіць. Упадабалася мазуром лазьня! Не надзякуюцца яны добрым людзям, «блізкім суседзям».

— Ну, Тарас, нашае падарожжа, як я бачу штораз усё цікавейшае, штораз, то усё лепш нам паводзіцца. Едзьма далей!

## X. ЯК МАЗУРЭ АЛАДКІ З МЕДАМ ЕЛІ

Едуць, сабе едуць, міжсобку сьмяюцца, гутараць. Сваё піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Прыяжджаюць ізноў у вёску. А быў якраз сьвяточны дзень.

Бачаць, аж з аднэй хаты людзі усё бегаюць то у сьвіран, то са сьвірну назад у хату: і усё — па чародзе, пачынаючы ад гаспадара і канчаючы на самым наймалодшым. Сноўдаюцца сюды і туды, быццам мурашкі у мурашніку.

Прыстоялі Панас з Тарасам, узіраюцца.

Бачаць, што кажны бяжыць у сьвіран і назад у хату з шылам у руцэ.

Зацікавіліся падарожныя.

— Што вы робіце, людцё добрыя? — пытаюцца яны у гаспадыні.

— А ці-ж ня ведаеце? Аладкі з мёдам ямо!

— Ну, то чаго вы бегаеце, калі аладкі ясьцё? Сеў каля стала, — і еж сабе!

— А як-жа сядзець, калі аладкі у хаце, а мёд у сьвірне?

— Ну, а дзеля чаго у цябе шыла у руцэ?

— А гэта мы на шыле мёд са сьвірну носім.

— Ну, гэта накш робіцца! Хочаце, — пакажам?

— Добра, пакажэце! — згадзіліся мазурэ.

— Зараз Панас і Тарас прынесьлі са сьвірну ражачку з мёдам, паставілі на стол, селі і паказваюць, як трэба аладкі з мёдам есьці.

Нагледзіліся мазурэ і самі пачалі гэтак рабіць. Ядуць, хваляць, што смачна, і ня могуць надзівіцца да чаго на сьвеце ёсьць людзі хітрыя.

Наеліся Панас і Тарас за сваю навуку аладак з мёдам. Атрымалі ад мазуроў гору чадзяк і паехалі далей.

## XI. МАЗУРЭ ЕДУЦЬ У БЕРАСЬЦЕ НА КІРМАШ

Едуць яны, едуць, міжсобку жартуюць і сьмяюцца, аб тым, што бачылі, гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — трухаюць.

Праз лясэ, палe праяжджаюць, з узгорка на узгорак пераваліваюцца. На выганах начлягуюць, сваіх конікаў папасваюць.

— Тарас, а Тарас!

— Што, куме Панас?

— Вось колькі часу мы ужо едзем, колькі усяго ужо нагледзіліся, а дагэтуль яшчэ не перакаваліся у блуклівасьці мазуроў.

— Я і сам ужо аб гэтым думаю, Панас.

І толькі сказаў гэта Тарас, як узяў зараз-жа завярнуў

коні назад, быццам раптам здумаў да хаты варочацца. Але спыніў коні і далей няедзе.

А было гэта ужо на захадзе сонца.

— Што ты заманўў, Тарас? Няўжо да хаты здумаў варочацца?

— Пачакай, Панас! Будзеш зашмат ведаць, — хутка старым станешся.

Стаяць сярод дарогі, азіраюцца.

Бачаць, — з лесу выяжджае цэлы абоз мазуроў.

Пад'ехалі мазурэ да нашых падарожных і пытаюцца:

— Куды едзеце, людцэ?

— У Берасьце! — адказвае Тарас, — а вас куды Бог нясе?

— Таксама у Берасьце. А ці ня ведаеце, колькі вярстоў засталося яшчэ ехаць?

— А вярстоў дваццаць можа будзе. А ці здалёк, людзі добрыя?

— О, здалёк: вось з-за гэтага лесу! А вы адкуль?

— Мы якраз з таго месца, дзе сонца заходзіць.

— Дык, значца, вы — блізкія суседзі, бо у нас сонейка заходзіць вось за гэтым прыгорачкам! Ну, а чаго-ж вы стаіцё, чаму ня едзеце?

— Мы вось думаем, — кажа Тарас, што ня варта нанач у горад ехаць: і коняй няма дзе папасьвіць, і за начлег трэба плаціць. А тут вось добры выган, травы колькі хочаш, і лес блізка, — давайце разам заначуем тут: у грамадзе весялей будзе. А заўтра разам паедзем.

— Праўду кажаш, чалавеча! — згадзіліся мазурэ.

Зьехалі на выган, распрэглі коні і пусьцілі іх на пашу. Самі нанасілі дроў, разнецілі вогнішча, павячэралі кажны са свае торбачкі, пагутарылі і леглі спаць.

Мазурэ зараз-жа і захраплі, як пшаніцу прадаўшы, хоць пшаніца яшчэ была у мяшкох на вазох.

Ня сьпяць толькі Панас і Тарас: аднаго карціць выканаць сваю думку, а другога надта цікавіць гэты сакрэт.

А мазурэ храпуць, аж захлынаюцца і, пэўна, ужо па трэйцім сьне трызьняць.

Вось Тарас раптам усхапіўся.

— Ну, пойдзем, Панас!

— Куды?

— Во, — ідзі, калі кажу!

Падыйшлі да вазоў.

— Варочай усе вазэ аглоблямі назад!

Паперакручвалі ўсе вазы назад і пайшлі спаць.

Назаўтрае, яшчэ да ўсходу сонца, усе схапіліся, палавілі коні, запрэглі і паехалі.

Едуць сабе, едуць, з мазурамі гутараць, аба усім распытваюць. Падяжджаюць да вёскі.

— Што, мо гэта ужо Берасьце? — пытаюцца мазурэ у нашых падарожных.

— Але, Берасьце, — кажа Тарас, а самога аж разрывае ад стрымванага сьмеху.

— Але-ж — зусім, як наша вёска! — узрадаваліся мазурэ.

— Глядзеце! — паказвае адзін мазур, — вунь тая баба, што нясе ваду, як дзьве кроплі вады падобная да мае Магды!

— Праўда! — кажуць мазурэ.

А Панас і Тарас аж жыватэ падціснулі паясамі, каб ня трэснуць ад стрымванага сьмеху.

— Глядзеце, людце, дык тут і каровы зусім, як нашыя! — дзівяцца мазурэ, гледзячы на стада, што ішло з поля.

Уяжджаюць у вёску. Коні давай цягнуць вазэ кажны на свой панадворак!

Насустрач кірмашнікаў павыбягалі з хатаў мазурыхі. Пытаюцца у мужыкоў, чаму не прадалі пшаніцы.

А тыя стаяць, праціраюць вочы і толькі лыпаюць імі.

А некаторыя мужыке пачалі сварыцца з жанкамі. Адны кажуць, што прыехалі у Берасьце, а жанке пераконваюць іх, — што дамоў.

А Панас із Тарасам падагналі конікаў ды паехалі сабе далей.

Ад'ехаліся за сяло, у волю парагаталіся.

— А што, заўсёды слухай мяне, Панас! — кажа Тарас.

— Ну і мудры народ гэтыя мазурэ! Едзьма, браток, далей, бо кажуць людзі, што «чым далей у лес, тым больш дроў».

## XII. ЯК МАЗУРЭ БЭЛЬКУ РАСЬЦЯГВАЛІ

Едуць яны, едуць, між собку жартуюць, гутараць. Піпачкі свае — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — трухаюць.

Уяжджаюць ізноў у вёску.

Бачаць, — будуюць мазурэ новую хату.

— О, гэта цікава паглядзець! — кажа Панас.

Пад'ехалі блізка, прыстоялі, «памажы Божа» сказалі.

А мазурэ якраз у гэты самы час, пабраўшыся на чалавек дзесяць за вяроўкі, прывязаныя за адзін і другі канец да падрыхтаванай і ужо як мае быць абчэсанай бэлькі, цягнуць адны да сябе, а другія да сябе, аж вочы на лоб у іх выпірае.

Што робіце, людзі добрыя? — пытаецца Тарас.

— А ці-ж ня бачыце? — бэльку хочам расьцягнуць! Кароткая, бачыце, папалася дзеравіна, а у нас даўжэйшае няма!

Глядзяць Панас з Тарасам, чакаюць, пакуль мазурэ бэлку расьцягнуць.

А яны пацягнуць, пацягнуць, завалакуць на зруб, прымераюць, — кароткая!

Давай зноў цягнуць!

Урэшце змарыліся мазурэ, запацелі, быццам з вады вылезьлі, і бачаць ужо, што не дадуць рады, — ня зробяць бэльку даўжэйшай. Паселі і сумуюць.

— А вось мы удвох якбач вам гэтую бэлку падоўжым!

— Ну! Хіба жартуеце? Нас вось дваццаць чалавек не далі гэтаму рады, а вы ужо нешта зробіце?

Панас і Тарас, нічога не адказаўшы зараз распрануліся, зьмерылі папярочную сьцяну зруба, знайшлі патрэбнай даўжыні ашвалачак дзеравіны, абчасалі, прыладзілі да бэлькі, зьбілі дубовымі цьвякамі, удвох зацягнулі, улажылі і пытаюцца у мазуроў:

— Ну што, далі рады?

Дзівяцца мазурэ і не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

— А мы адтуль, адкуль хмары на неба падымаюцца!

— Э! Дык вы нат блізкія суседзі, бо у нас хмары заўсёды з-за гэтага лесу выходзяць, а туды толькі вярстоў са два будзе!

Запрасілі мазурэ добрых людзей, «блізкіх суседзяў» у хату, паставілі за працу і добрую раду барышу, частуюць, кормяць, аб сваім жыцьці расказваюць.

П'юць, ядуць Панас із Тарасам, як добрыя госьці, з мазурамі гутараць, жартуюць. Не заўважылі, як сутуняла.

Пакідаюць іх мазурэ нанач.

Паслалі Панасу на аднэй лаве, Тарасу — на другой. Ляглі падарожныя і сьпяць.

## XIII. МАЗУРЭ СЬЛЯПЫМІ РОДЗЯЦЦА

Прачынаецца Тарас уначы, аж чуе — мазурыха дзіця нарадзіла.

— Во шчасьціць нам! — думае, — і на баль папалі, і даведаемся, якімі мазурэ родяцца.

Нараньні Тарас, нічога ня кажучы Панасу, жыў не гарыць, хутчэй угледзець навароджанага мазура. А папрасіць, каб паказалі, не адважыцца, бо гэта ня згодна із звычаем.

Урэшце, дачакаўся ткі Тарас, як усе выйшлі з хаты, а парадзіха заснула, адвярнуўшыся да сьцяны.

Падцікаўся гэта ён да ложка, адкрыў дзіця, зірнуў на яго ды кліча хутчэй Панаса.

Падбег Панас, глядзяць абодвы, — у дзіцяці запраўды вочы заплюшчаныя і, быццам вечкі зросшыся.

Дзіня раптам заплакала.

— Глядзі, пат сьлёзы не цякуць! — кажа Тарас, — і вочкі усё заплюшчаныя!

У сенях нехта стукнуў, — і Панас із Тарасам хутка адскочыліся ад дзіцяці і, як ня лысыя, сядзяць на лаве і монтаюцца каля капшукоў, быццам курыць рыхтуюцца.

---

— А што? Ткі праўду людзі кажуць, — гаворыць Тарас, выехаўшы з панадворку.

— Аб чым? — пытаецца Панас.

— Ну, а пра тое, што мазурэ сьляпымі родзяцца!

## XIV. ЯК МАЗУРЭ ТАЛАКНО У РАЦЭ РАБІЛІ

Едуць яны далей міжсобку гутараць, сьмяюцца. Пiпачкі свае — пык!-пык!-пык! — папыкваюць. Конікі іхныя — трух!-трух!-трух! — патрухваюць. І ім нішто сабе пасьля мазуроўскага аўса.

Падяжджаюць нашыя падарожнічкі да ракі: конікі піць захацелі.

Разнуздалі. Пояць.

Бачаць, аж да іх пад'яжджае абоз мазуроў, таксама коні паіць.

Напаілі мазурэ коні і згаворваюцца міжсобку талакно рабіць.

— Цікава пагдядзець, — кажа Панас, — як мазурэ талакно робяць. Заложым тут папаску і пасочым.

— Праўду кажаш, Панас!

Падкінулі конікам сена, самі дасталі з воза сваю лусту, селі, сілкуюцца і да работы мазуроўскае прыглядаюцца.

Бачаць, — зьнялі мазурэ з воза мяшок мукі і нясуць да ракі.

Зацікавіліся Панас із Тарасам: што далей будзе?

Потым праканалі мазурэ у беразе заваню, напусьцілі у яе вады і насыпалі солі. Памяшалі ваду, пакаштавалі, — ня солана! Яшчэ сыпаюць соль, — ня солана. Цэлы мяшок солі у заваню увярнулі і ніяк вады не пасалілі. «Што за ліха?» дзівяцца мазурэ.

Але, як солі ужо больш ня было, дык пастанавілі і з недасолам пагадзіцца.

Сыплюць муку. Мяшаюць, — усё рэдкае талакно!

А мука, ведама, з вадой зьбягае.

Цэлы мяшок мукі у заваню угацілі, а талакно ніяк не загусае. Што за ліха? Разважылі мазурэ, што мука на дно сьселася. А як яе разьмяшаць?

Зараз паклікалі мазурэ хлапчука, прывязалі яму да шыі камень, а да паяса — вяроўку і кажуць: «Лезь у заваню талакно мяшаць!»

Хлапчук быў невялічкі, — і, як чабоўхнуў у заваню, дык і схаваўся з галавою.

Клічуць мазурэ хлапчука, — не адгукаецца.

— Во, бэстыя! — кажуць мазурэ, — дапаў да талакна: і нам нічога не пакіне! Пусьці казла у горад!...

Шкада Панасу і Тарасу хлапчука, але яны і самі ня пэўныя, што ён утапіўся. Хто яго ведае? А мо мазурэ і запраўды пад вадою могуць дыхаць?

І страх іх бярэ, і пераканацца хочацца. Глядзяць, што будзе далей.

Паклікалі яшчэ раз мазурэ хлапчука, — не аказваецца.

— Абжорся пэўна талакна, ды вылезьці ня можа, — пастанавілі яны.

Пацягнулі за вяроўку — выцягнулі хлацца.

— Бач, як нажорся, аж распух! Ну, няхай пасьпіць тут на беразе, — кажуць мазурэ.

Клічуць яны другога хлацца, прывязваюць да шыі камень, за пояс вяроўку, загадваюць ня есьці усяго талакна і спушчаюць у заваню.

Ня сьцерпелі тут Панас із Тарасам! Пераканаліся, што і мазурэ пад вадою жыць ня могуць.

— Пачакайце, людцэ! Што вы робіце? — крычыць на іх Тарас.

— Талакно мяшаем! — адказваюць мазурэ.

— Дык чаму-ж вы у дзяжы, ці у якім другім начыньні талакна ня робіце?

Мазурэ сказалі, што ніякага начыньня з сабою ня маюць а надта хочуць есьці, бо даўно у дарозе.

— Ну, дык мы вам пакажам, як можна без начыньня талакно зрабіць! — кажа Тарас.

Зараз распрануліся, закасалі рукавэ, папрасілі мукі і парожны мяшок. Зрабілі цеста, вымазалі ім добра з сярэдзіны мяшок, насыпалі туды мукі, разьмяшалі, пасалілі і у неўзабаўкі далілі для мазуроў дзеля лепшага смаку і маны большую палову талакна з свае дзежкі.

Добрае выйшла талакно! Ядуць мазурэ хваляць, добрым людзям не надзякуюцца, а іхнага розуму не надзівяцца.

Паехалі Панас і Тарас далей.

## XV. МАЗУРЭ ПЛЫВУЦЬ ПРАЗ РЭЧКУ

Едуць яны, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — папыкваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць...

Пад'яжджаюць яны да ракі. Бачаць — ні мосту, ні броду. Мост, як відаць, раней быў, але навальніцай зьнясло.

Што тут рабіць? Стаяць, сумуюць. Чакаюць, мо хто над'едзе, ці надыйдзе.

Аж на шчасьце ідуць чатыры мазурэ. Добра, — будзе у каго спытацца, дзе бліжэйшы мост.

Падыходзяць мазурэ да ракі. Бачаць, — аж ні мосту ні броду. А ім трэ' канечна на другі бок перайсьці.

Сумавалі, сумавалі, круціліся каля ракі, круціліся, — урэшце знайшлі на беразе дзеравіну.

Зараз двох мазуроў селі на тую дзеравіну, таварыш

прывязалі ім да гэтае дзеравіны ногі і папхнулі ад берагу.

Дзеравіна, якбач, круць! — і толькі ногі мазуроў тырчаць над вадой.

А таварышэ іхныя стаяць на беразе і сьмяюцца.

— Бачыш, — кажуць, — трасца іх галаве: яшчэ пераплысьці не пераплылі, а ужо ганучы сушаць!

Скочылі Панас із Тарасам ратаваць людзей, але пабачылі, што ужо не дадуць рады. Так і паплылі мазурэ з вадой.

А таварышэ іхныя стаяць на беразе і усё галёкаюць, каб ім хутчэй дзеравіну падавалі. Але не дачакаліся і разлаваўшыся пайшлі назад.

— Бач, трасца іх галаве! — кажуць, — во, павер ім другі раз!

А як спыталіся Тарас і Панас, ці далёка адтуль другі мост, мазурэ адказалі, што ня ведаюць.

Стаяць Панас і Тарас каля ракі і думаюць, што далей рабіць.

— Ведаеш што, Тарас? Вярнемся ужо да хаты! Пакуль даедзем, — якраз будзе пара касіць!

— Праўду кажаш, Панас, але сяньня ужо позна, — давай паначлегуем тут!

Адпрэглі коні, пусьцілі іх на траву. А самі раздабылі дроў, расклалі вогнішча. Падпякуюць сабе на ражэнчыках сала, вячэраюць. Павячэраўшы, наадменку паспалі!

Назаўтрае разам з сонейкам у дарогу вырушылі.

## XVI. ЯК МАЗУР ХАТУ ПАДПАЛІЎ

Едуць яны, едуць міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Праз знаёмыя лясэ, палеткі і вёскі праяжджаюць, з узгорка на узгорак уздымаюцца, са знаёмымі людзьмі

сустракаюцца. З імі гутараць і расказваюць, дзе былі і што бачылі. За навуку мазурэ ім дзякуюць, да сябе з пашанай заклікаюць, частуюць, кормяць і з добрымі пажаданьнямі выпраўляюць.

Прыяжджаюць Панас із Тарасам у тую вёску, дзе яны навучылі цесьляў, як бэльку падоўжыць.

— Ну, няведама, скончылі мазурэ хату, ці не? — кажа Панас.

— Вось пабачым...

Падяжджаюць бліжэй. Бачаць, — аж мазур ходзіць вакол сваё новае хаты з запаленым смаляком і усё ткае яго пад страху.

— Бач, нечысьць! — кажа мазур, — не пасьпеў гаспадар яшчэ і абагрэцца у хаце, як ён ужо першы свае цянёты парараспасьціраў... Згінь, прападзі, нячыстая сіла!

І перахрысьціўшы падстрэшша смаляком з агнём, мазур уваткнуў яго у салому.

Ледзь пасьпелі Панас із Тарасам заліць страху, што аж жыганула.

А мазур, спалохаўшыся, што хата загарэлася, аслупянеў і толькі вачыма лыпае.

— Што гэта ты хацеў зрабіць найлепшае? — пытаецца у яго Тарас.

— А я, — кажа, хацеў абсмаліць толькі тыя ніці, што нячысьцік панаблытваў пад страхой, каб апутваць імі душы людзкія.

Ды гэта-ж — павуценьне! А калі ты яго ужо так баішся, дык дай мятлу, — я пакажу як ад яго бараніцца.

Прынёс мазур мятлу. Тарас пазьнімаў ёю павуценьне. Мазурэ, якія зьбегліся на гэта, аж ратэ паразьяўлялі.

— Да чаго, — ёсьць хітрыя людзі на сьвеце!...

Разьвіталіся Панас і Тарас з мазурамі і паехалі далей.

## XVII. СКУЛЬ УЗЯЛІСЯ МАЗУРЭ

Едуць сабе, едуць міжсобку сьмяюцца, гутараць, і розуму людзкога не надзівяцца.

Над'яжджаюць пад карчму. А час быў ужо позны: пачало сутуняць.

— А ведаеш, Тарас? Паначуйма хоць раз у карчме: тут пэўна людзей сьвежых сустрэнем, па чарцы вып'ем, разгутарымся, ізноў чаго-колечы новаго даведаемся.

— Праўду кажаш, Панас!...

Заехалі да жыда у стадолу, распрэглі коні, прывязалі, падкінулі ім сена, а самі пайшлі у хату.

Падарожных у карчме было шмат. І усё адны мазурэ. Сярод іх знайшліся і знаёмыя Панасу і Тарасу.

Зараз прывіталіся, слова за слова, — і разгутарыліся. А каб разьвязаць у мазуроў языке і здабыць прыяцельства, — Панас із Тарасам заказалі кварту гарэлкі. Нарэзалі сала. П'юць, ядуць, бясёду вядуць. Мазурэ з свайго боку пачалі гарэлку ставіць. Панас і Тарас прапануюць ім закусваць салам, а мазурэ адмаўляюцца.

— Мы не кацапы, кажуць, — сьвіную скуру есьці.

— Мы таксама не кацапы, але сала не зьмяняем на вашую масьлянку.

А мазурэ тымчасам якраз паставілі на стол бойку з масьлянкаю і усё абмакалі у яе хлеб.

— Дык хто-ж вы, калі не кацапы? — пытаюцца мазурэ.

— Мы — палешуке, бо жывём на Палесьсі. Але нам цікава, чаму вас мазурамі завуць, калі вы у Польшчы жывяцё?

— Мазурэ — гэта у нас мужыке, як і мы з вамі, а палякамі называюць тых у нас, што працаваць адвучыліся.

— Цікаўныя рэчы мы ад вас чуем! А вы можа, і ня ведаеце скуль вы на сьвеце узяліся?

— Для цэго-з не вемы? Нас Бог отвовыл!

— Вось і ня ведаеце! Бог стварыў толькі першага чалавека, што Адамам зваўся. А усе людзі, што распладзіліся ад Адама па усей зямлі, атрымалі сваё імя ад тых мясцовасьцяў, дзе яны засяліліся, або самі надалі назоў той мясцовасьці, якою завалодалі. І вось, кажны народ асеў на свёй зямліцы, сваёй гаспадарцы: расейцы — ў Расеі, немцы — у Нямеччыне, французы — у Францыі, паляке — у Польшчы, беларусы — у Беларусі. Да беларусаў і мы належым, але, як нашая зямелька вялікая, дык каб адрозьніць, хто адкуль паходзіць, дык маем яшчэ асобныя мясцовыя назовы. Толькі вось мазурэ жывуць на падсуседзях у палякоў, — ні то паляке, ні то не паляке: мова шапялявая, вопратка дзіравая, гаворацъ, як кашы-мазухі у губу набраўшы, згэтуль — і мазурэ. Калечаны народ! А калі хочаце ведаць, як і калі акалечыліся, дык раскажам вам.

— Скажэце, людцэ добрыя! — просяць мазурэ.

— Добра, — кажа Тарас, — дык слухайце-ж ды ня гнявайцеся, калі што не спадабаецца. Жыў сабе за Верасьцем адзін паляк ды такі лядашчы і зухвалы, што нікому і дарогі не саступаў. Нат усе паляке ад яго адкінуліся, кажучы, што гэта нейкі ужо падпаляк. Вось, аднаго разу заступіў гэты паляк дарогу чорту і давай з ім біцца, а чорт калі смальне яму у зубы, дык яны у паляка і высыпаліся. Адгэтуль пачаў ён шапятаць, і ад яго пайшоў цэлы такі род, бо дзеці перанялі ягоную шапятлівую мову. Дык вось, значна, мазурэ — тыя-ж паляке, толькі што шапятлівыя. Але паляке, памятаючы іхнага паганага прашчура, і цяпер на мазуроў ласкі ня маюць, па сьвеце іх разганяюць, па чужых краёх расьпіхаюць і усе небясьпечныя кутке мазурамі затыкаюць. Што-ж, няпраўда мо?

— Можа і праўда, — згадзіліся мазурэ, — калі людзі аб гэтым баюць.

Пагутарылі яшчэ аб тым, аб сім, як гэта заўсёды бывае паміж падарожнымі ды яшчэ за чаркаю гарэлкі. Урэшце усе параззуваліся і палеглі спаць.

## XVIII. ЯК МАЗУРЭ СВАЕ ХАДАКІ ПАЕЛІ

Назаўтрае, пакуль мазурэ яшчэ спалі, прачнуўся Тарас і будзіць Панаса.

— Панас, Панас! Хутчэй уставай! Будзем сьнеданьне гатаваць.

Панас прахапіўся і думае: «Зноў, пэўна, нейкую штуку надумаў мой кум»!

— Ну, Панас! Зьбірай хутчэй усе мазуроўскія хадаке і рэж з іх скваркі, пакуль я агонь распалю.

Распаліў Тарас на прыпеку дровы, паставіў трыножак, нарэзаў на скавараду сала, укінуў туды скваркі з мазуроўскіх хадакоў — пячэ.

Па карчме пайшоў прыемны пах, быццам добрая гаспадыня верашчаку варыць. Сала прабралася да жыдоў у камору і так паказытала у носе старазаконнага Янкеля, што той праз сон аж чхнуў.

А падхартаным мазуром дык пэўна аладкі сьніліся.

Нарэшце, пачалі яны прачынацца і, уцягваючы у сябе прыемнае паветра, пытаюцца:

— Чым гэта так смачна пахне?

Панас із Тарасам паставілі на стол кварту гарэлкі, смажаніну з хадакоў і клічуць на сьнеданьне усіх мазуроў.

— Ідзеце, — кажуць, — на разьвітаньне пачастуем вас варшаўскімі флякамі.

Уселіся мазурэ за стол. Выпілі па чарцы. Хрумстаюць свае хадаке, аж за вушамі трашчыць! Хваляць Панаса і Тараса, што умеюць так добра флякі гатаваць.

А Панас і Тарас толькі усьмяхаюцца. Ядуць сабе сала, а да скварак з хадакоў не дакранаюцца.

— Чаму-ж вы людцэ, самі не бераце флякаў? — пытаюцца мазурэ.

— Мы ужо даўно пасьнедалі і вось толькі з умысьля вас на разьвітаньне пачаставаць захацелі.

— Дзякуем вам, людцэ добрыя! За усё нашае жыцьцё ня елі гэткіх смачных рэчаў!

Пасьнедалі мазурэ і, аблізваючыся, ад стала разыйшліся. Рыхтуюцца абувацца. Тыц! — мыц! — пад лаўкі, пад стол, — а барсуноў і няма! Што за ліха? Сабакі не брахалі, а хадаке пакралі! Галовы скруцілі іх шукаючы! Прычапіліся да жыда.

— Давай, — крычаць, — нашыя хадаке, ато пэйсы павылупім!

А ад барсуноў толькі аборкі па карчме валяюцца. Мазурэ ужо згаворваюцца на гэтых аборках жыда вешаць, калі не аддасьць барсуноў, або не заплаціць за іх.

Тут Панас і Тарас прызналіся, дзе барсуны дзеліся.

Сумеліся мазурэ. Дзіваяцца здольнасьці Панаса і Тараса! За хадаке ня злуюць, бо навука грошы каштуе. Але чаго-ж і гневацца, калі самі спажылі ды яшчэ за чужою чаркаю гарэлкі? За тое перакаваліся, што за моц мае сала, якога яны уперад баяліся ужываць. Абяцаліся нат, заехаўшы дамоў, пасмажыць усе заваляшчыя хадаке, якія дзе толькі знойдуцца.

Вось, з таго, пэўна, часу мазурэ і прывыклі да сала і цяпер нат без хадакоў яго ужываюць!

Як із добрымі прыяцелямі разьвіталіся мазурэ і Панасам і Тарасам.

Селі яны і паехалі.

## XIX. ПАНАС І ТАРАС РАСКАЗВАЮЦЬ ДОМА ІНШЫМ, ШТО БАЧЫЛІ У ДАРОЗЕ.

Едуць сабе, едуць міжсобку гутараць. Да роспуку рагочуць, як хадаке прыгадаюць. У вясёлым настроі незаўважылі, як апынуліся у Берасьце.

— Ну, дзякаваць Богу, сваёй старонкай запахла!

Тут яны зноў сустрэліся з Арцёмам. Расказалі яму, што чулі і бачылі на белым сьвеце. Выпілі разам кварту

гарэлкі, узялі ад Арцёма ліст да яго бацькоў і паехалі далей.

На Купала яны былі ужо дома. Якраз да касьбы управіліся!

Радыя Панас і Тарас, што на свае вочы пабачылі, да чаго мудрыя людзі на сьвеце жывуць! Ня раз панадрывалі ад сьмеху жыватэ суседзі Панасавы і Тарасавы, слухаючы іхныя апавяданьні. Ды цяпер яшчэ, лежачы на печы (бо ужо зусім старыя), апавядаюць яны сваім унукам як мазурэ на сьвеце жывуць і да чаго яны здольны народ.

---

І мне калісьці, як я быў музыкам на вясельлі Тарасавага сына давялося да сьлёз нарагатацца слухаючы іхныя апавяданьні. Цікаўныя і пацешныя рэчы яны расказвалі! Але усіх цяпер я не магу прыпамятаць. Дык вось каб, і гэтыя урэшце ня вылецелі з галавы, я узяў ды запісаў.

C/1534 RR Nr. 12